



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

24 жніўня 2018 года №34 (1217)








# Валожыншчына: зладзім фэст, зручны для ўсіх

**Майстар-класы, заняткі, рок-канцэрт зладзілі для людзей з асаблівасцямі ў Налібоцкай пушчы.**

старонка 21

Фотаздымак прадастаўлены арганізатарамі фэсту.



**Дэльтапланы, арганны канцэрт, фаершоу, гіганцкі канструктар — Астравец з размахам адзначае 550-годдзе ў суботу, 25 жніўня**

Чытайце поўную праграму на старонцы 18


ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Мядзеле з'явіліся новыя скульптуры

МЯДЗЕЛ

Аўтары каменных твораў – маладыя беларускія скульптары.

Ад 23 ліпеня па 5 жніўня яны працавалі ў рамках пленэру на тэму «Вада і камень».

Скульптуры «Сон ракі», «Дотык» і «Глыбіня» паставілі ў маладзевым скверы ў Мядзеле.

Нагадаем, што ў ранейшыя гады такія пленэры ладзілі ў Астраўцы, Маладзечне, Вілейцы.

Аддзел інфармацыі.

## Чаму аўтобусы ў Маладзечне спазняюцца ці не прыходзяць

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю звярнуўся чытач, які паскардзіўся на тое, што аўтобусы № 2, 4, 10 у Маладзечне апошнія дні не прыязджаюць на прыпынкі па раскладзе.

Мы патэлефанавалі ў маладзечанскі аўтапарк №4 з просьбай патлумачыць сітуацыю.

«Цяпер са 165 кіроўцаў, што павінны развозіць людзей, у нас працуе толькі 112. Не хапае 53 чалавекі. Зарплаты невялікія, людзі працаваць не хочуць. Таксама зношаны перасоўны састаў, які падлягае спісанню, – паведаміў галоўны інжынер Маладзечанскага аўтапарка №4 **Аляксандр Спеталюн.**

Таццяна КАСЬЯН.

## У вілейскай пачатковай школы №6 – новы дырэктар

ВІЛЕЙКА

Ад 14 жніўня дырэктарам Вілейскай пачатковай школы №6 стала **Вольга Моўчун.**

Яна нарадзілася ў Вілейцы, скончыла сярэднюю школу №2 (цяпер гімназія №1 «Логас».)

У 2007 годзе скончыла БДПУ імя Максіма Танка, пазней на базе гэтай установы прайшла перападрыхтоўку па спецыяльнасці «дэфекталогія».

Працавала намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў сярэдняй школе №5, пасля – метадыстам вучэбна-метадычнага кабінета ва Упраўленні адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама, распавялі ў прыёмнай пачатковай школы №6.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Навучальны год пачнецца з урока «Мне выпала шчасце тут нарадзіцца»

Сёлета на Міншчыне пойдуць вучыцца больш за 16 тысяч першакласнікаў.

Ва ўсіх класах настаўнікі правядуць першы ўрок пад назвай «Мне выпала шчасце тут нарадзіцца». Урок прысвяцяць Году малой радзімы.

Паводле Упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.



# Заасфальтуюць ці не – залежыць ад фінансавання



Фота забеспячэння чытачкай «РГ».

У «Камунальніку» паведамілі, што дарогу на 8 Сакавіка адрамантуюць, калі з'явяцца грошы.

**Жыхары вуліцы 8 Сакавіка ў Маладзечне скардзяцца на стан дарогі.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Прыедзьце пагледзіце, як нам дарогу адрамантавалі, – патэлефанавалі ў рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» чытачы з вуліцы 8 Сакавіка, што ў Маладзечне.

Па словах чытачоў і па дасланых фотаздымках, стан дарогі жадае лепшага.

– Усюды ямы, камяні, бруд! Не праехаць! – скардзілася наша чытачка **Ядвіга Іосіфаўна.** – Гаспадары ўжо самі пачынаюць добраўпарадкоўваць вуліцу кожны ля свайго двара.

Жыхары вуліцы неаднаразова звярталіся ў Маладзечанскі райвыканкам з просьбай адрамантаваць дарогу. На адзін з лістоў прыйшоў адказ, што дарогу адрамантуюць у 2010 годзе. Аднак гэтага так і не зрабілі. У наступных адказах спасылаліся на адсутнасць сродкаў.

Па каментар мы звярнуліся ў вытворча-тэхнічны аддзел «Камунальніка».

– Рамонт дарогі на 8 Сакавіка мы не праводзілі, – растлумачылі спецыялісты «Камунальніка». – 15 чэрвеня рабілі грайдзіраванне – раўнялі вуліцу спецыяльнай тэхнікай. Пры неабходнасці будзем паўтараць грайдзіраванне некалькі разоў. Такія працы мы праводзім да кастрычніка. Вядома, калі ідуць дажджы, стан дарогі становіцца горшым.

У «Камунальніку» разумеюць: людзям хочацца асфальту на сваіх вуліцах, але асфальтаванне залежыць ад фінансавання. Вось і з вуліцы Капуцкага людзі тэлефануюць, кажуць, што ад кепскай дарогі пастаянна ідзе пыл, але грошай на асфальтаванне пакуль няма.

Вуліца 8 Сакавіка значыцца ў перспектыўных планах «Камунальніка». Аднак заасфальтаваць яе змогуць толькі тады, калі з'явяцца сродкі.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Прастора для адпачынку, творчасці і зносін

## У Маладзечне правядуць летні фэст «Прышчэпка»

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанцаў і гасцей горада запрашаюць на летні фэст «Прышчэпка», які пройдзе 25 жніўня ва ўнутраным дворыку краязнаўчага музея. Пачатак а 12-ай.**

У апошнюю суботу жніўня ўнутраны дворык музея ажыве і ператворыцца ў прастору для адпачынку, творчасці і зносін. Тут пройдзе гадовы гарадскі фэст «Прышчэпка», ён будзе доўжыцца ад 12.00 да 21.00.

Фэст атрымаў назву невыпадкова. Для маладзечанцаў слова «прышчэпка» азначае не толькі прадмет, але і з'яўляецца ўнікальным гарадскім сімвалам, які азначае «месца сустрэчы» – ля помніка ў гарадскім парку. Часта можна пачуць у размове маладзечанцаў: «Сустрэнемся дзе?» – «Ля прышчэпкі».

**Фэст пройдзе пад слоганам «Чапляйся да нас!» – далучайся да актыўных, неабыякавых і ініцыятыўных жыхароў Маладзечна.**

Фэст ладзяць маладзечанцы. Яны аб'ядналася, быццам прышчэпкі на адной вяровачцы, агульнай справай.

### Што вас чакае?

- добрая музыка
- майстар-класы для дарослых і дзяцей
- фудкорт
- маркет
- зона настольных гульняў
- дзіцячая зона з аніматарамі
- зона абмену
- кулінарнае шоу
- і многае іншае!

Падрабязнасці праграмы мерапрыемства можна знайсці тут: **vk.com/fest_molodechno.**

Уваход вольны.

Арганізатарамі з'яўляюцца адукацыйны цэнтр «Адкрытая прастора», Мінскі абласны краязнаўчы музей, іншыя арганізацыі, а таксама актыўныя і неабыякавыя жыхары нашага горада.

Ідэйнымі натхняльнікамі мерапрыемства выступілі культурны менеджар **Ганна Холад** і сузаснавальнік Адукацыйнага цэнтра «Адкрытая прастора» **Валянціна Сідоркіна.**

Аддзел інфармацыі.

# Топ-20 танней за 0,20

## Не паверыце, за 20 капеек можна нават купіць ежу!

**Мы склалі спіс з 20 рэчаў, якія каштуюць танней за 20 капеек. Глядзіце.**

### 1. Цвік

За капейку можна набыць некалькі цвікоў. З іх нават робяць карціны! Трэба на драўлянай дошцы зрабіць надпіс, літары павінны быць з падвойным контурам. Забіць цвікі па контуры, пакідаючы частку стрыжня пад капелюшом, узяць каляровыя гумкі і надзець іх на цвікі, змяняючы колеры, каб яны аб'ядналі цвікі ў дажжыну, у шырыню і па дыяганалі.

### 2. Пластыкавы кубак

Шкодную для экалогіі рэч прапануюць ад трох капеек. Кубак можна выкарыстоўваць як пасудзіну для расады ці падстаўку для канцтавараў.

### 3. Крэйда для малявання

Калі на стале ёсць разводы, іх можна замазаць крэйдай. Таксама яна паглынае вільгаць і прыбірае пах сырасці. І канешне, крэйдай можна намаляваць сонейка на асфальце. Усё гэта – за 4 капейкі.

### 4. Канверт без маркі

Адправіць паштоўку сябру ці павіншаваць калегу – набыць канверт можна за пяць капеек. Безумоўна, прыйдзецца дакупіць марку. Самая танная – адна капейка.

### 5. Жуйка

Адну штуку ў кіёске можна набыць ад пяці капеек. Але памятайце, што яе можна жаваць не больш за пяць хвілін і толькі пасля ежы, каб не сапсаваць страўнік. Вывесці жуйку з адзення можна з дапамогай праса, воцата, пары, замарозкі і нават іншай гумкі.

### 6. Запалкі

Запаліць вогнішча ці скласці домік з запалак можна ўсяго за шэсць капеек. А яшчэ ў карабку можна хаваць мелкія рэчы накшталт манет, гузікаў ці гаек.

### 7. Файл

Каштуе прыкладна сем капеек. Час ад часу файл называюць «мульціфора». А, напрыклад, у Сібіры — выключна так.

### 8. Гузік

З гузікаў робяць біжутэрыю, гумкі для валасоў, упрыгожваюць вопратку. Тыя, хто гублям завушніцы-цвічкі, можа чапляць іх на гузік. Набыць можна ад дзесяці капеек.

### 9. Стрыжань для ручкі

Калі завушніцы не вісяць пад вуглом з-за тонкай мочкі вуха, адразаюць кавалачак стрыжня і замацоўваюць завушніцу з адваротнага боку. Стрыжні для шарыкавай ручкі можна набыць прыкладна за дзесяць капеек.

### 10. Сшытак на 12 аркушаў

Хто ў дзяцінстве не рабіў караблікі ці самалёцікі з аркушаў? У сшытак можна запісваць ідэі, вершы, цытаты, зрабіць з яго асабісты дзённік. Самы танны, што мы знайшлі ў Маладзечне, можна набыць за 11 капеек.

### 11. Заціск для паперы

Акрамя папер, ім зручна заціскаць адкрытыя пакеты з кавай ці цукрам, каб не злежваліся. Ці выкарыстоўваць замест прышчэпак, трымальніка грошай або правадоў. Адна штука каштуе 13 капеек.

### 12. Цукерка на палачцы

Самую танную – але і самую маленькую – можна набыць за 13 капеек. Таксама яе можна зрабіць дома самастойна.

### 13. Іголка

Набылі гузік? Куды ж без іголкі! Адну штуку прапануюць за 15 капеек. З яе дапамогай робяць афорты – від гравюры, на якім малюнак надрапваюць іголкай на металічнай дошцы, пакрытай лакам. Потым апускаюць дошку ў кіслату, яна раз'ядае баразёнкі, тыя становяцца больш выразнымі. І дошка выступае ў ролі штампа.

### 14. Гумка

Гумка добра выдаляе пацёртасці з дрэва і светлай скуры. Творчыя людзі выразаюць з яе штампы для папер. У рэгіёне кошт пачынаецца ад 15 капеек.

### 15. Паветраны шарык

Адсвяткаваць Дзень нараджэння ці парадаваць дзіця дапаможа шарык. Каштуе 17 капеек. З яго можна зрабіць цацку-антыстрэс.

### 16. Кішэнны каляндарык

Мяркуюць, першы каляндар з'явіўся на тэрыторыі сучаснага Егіпта каля пяці тысяч гадоў да нашай эры. Цяпер яго паменшаны варыянт зручна насіць у кашальку. Каштуе каля 17 капеек.

### 17. Тачылка для алоўкаў

Да распрацоўкі спецыяльнай тачылкі аловак тачылі нажом. Але і цяпер мастакі тачылкай карыстаюцца рэдка. А вось для школьніка ці студэнта гэта неабходная рэч. Самая танная каштуе 18 капеек.

### 18. Просты аловак

Аловак можна выкарыстоўваць як закладку, заколку для валасоў, лічбавыя палачкі, указку. Ці закручваць паперу для творчых вырабаў, нешта размешваць, нават выкарыстаць як шпаргалку – прарэзаць на гранях іголкай формулы. Прапануюць ад 19 капеек.

### 19. Папка-вугалок

Яе зручна выкарыстоўваць у офісе і ў паездках. Папка гнуткая, можа змясціць 20-25 лістоў паперы, пры гэтым напаўпразрыстая, таму дастаць неабходны дакумент будзе няцяжка. Каштуе 20 капеек.

### 20. Свіныя скуркі

Са скурак можна зрабіць студзень, падсмажыць ці запячы ў смятане са спецыямі. Яны сустракаюцца ў буйных крамах. Кілаграм каштуе 10 капеек.

**Таццяна КАСЬЯН.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.08 | 23.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0548 | **2,0426** |
| Еўра | 2.3283 | **2,3649** |
| Злоты, 10 | 5.3880 | **5,5272** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.0865 | **3,0205** |
| Грыўня, 100 | 7.4842 | **7,3343** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 15.08 | 22.08 |
| Еўра | 2.3100/2.3470 | **2.3450/2.3650** |
| Долар ЗША | 2.0400/2.0650 | **2.0300/2.0470** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 15.08 | 22.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **1,60** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **1,50** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **0,95** |
| Памідоры, 1 кг | 0,90 | **0,95** |
| Перац, 1 кг | 1,80 | **1,39** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,70** |
| Абрыкосы, 1 кг | 2,90 | **3,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Бананы, 1 кг | 1,70 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,00** |
| Дыня, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,75 | **0,69** |
| Ківі, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Персікі, 1 кг | 2,80 | **2,95** |
| Яблыкі, 1 кг | – | **0,35** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## ДАІ правядзе дзень і тыдзень бяспекі дарожнага руху

**МАЛАДЗЕЧНА**

24 жніўня у рамках акцыі «Увага – дзеці!» ДАІ Маладзечна праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «У новы навучальны год – бяспечных усім дарог!».

Ад 1 да 7 верасня ў агульнаадукацыйных установах Маладзечаншчыны зладзяць «Тыдзень бяспекі дарожнага руху».

Супрацоўнікі ДАІ выступяць у арганізацыях, на прадпрыемствах, ва ўстановах адукацыі сярод вучняў і іх бацькоў, у тым ліку на агульнашкольных лінейках, прысвечаных пачатку навучальнага года. Пакажуць тэматычныя відэафільмы, распавядуць аб прафілактыцы і папярэджанні дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму на тэрыторыі Маладзечанскага раёна.

## Шукаюць сведкаў трох летніх аварый у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Калі вам вядома штосьці пра гэтыя здарэнні, калі ласка, звярніцеся ў міліцыю.

### Збілі пешахода

Каля 19 гадзін 20 чэрвеня кіроўца «Пежо 406» рушыў па вуліцы Дудко у накірунку Гарадоцкай. Побач з домам 122 б па Вялікім Гасцінцы.

Вадзіцель наехаў на пешахода, які пераходзіў дарогу справа налева па ходзе руху аўтамабіля.

З-за аварыі пешаход атрымаў пашкоджанні.

### Збіў веласіпедыста

Каля 15 гадзін 17 ліпеня 39-гадовы вадзіцель «Фіата Панда» рушыў па перасячэнні вуліцы Валынца з Віленскай.

Кіроўца наехаў на 81-гадовага веласіпедыста. Апошняга шпіталізавалі.

### Выехаў на сустрэчку

Каля 15 гадзін 22 ліпеня 46-гадовы кіроўца «Рэно Маскот» ехаў па 47-м кіламетры аўтадарогі «Мінск-Маладзечна-Нарач» на Маладзечна.

Не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу руху. Сутыкнуўся з аўто «Пежо Эксперт» пад кіраваннем 58-гадовага вадзіцеля. Апошняга шпіталізавалі.

Дзяржаўтаінспекцыя просіць сведкаў і відавочцаў звярнуцца па адрасе: Маладзечна, вуліца Дудко, 1/18. Ці па нумары (8-0176) **74-53-40, 74-53-43** або **102.**

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.**



## Транспартная міліцыя змагаецца з алкаголем

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанскае АУСТ просіць паведаміць па тэлефоне (8-0176) **74-23-63,** калі вам вядома пра незаконны выраб ці продаж спіртаўтрымліваючых вадкасцяў.

**Працуе тэлефонная лінія «П'янству – не!» на базе ГУУС Мінаблвыканкама: (8-017) 239-41-75.**

За парушэнне антыалкагольнага заканадаўства прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

Артыкул 12.27 КоАП. Незаконнае перамяшчэнне, захоўванне табачных вырабаў і алкагольных напояў, вытворчасць, перапрацоўка, захоўванне, перамяшчэнне нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, этылавага спірту, табачнай сыравіны, рэалізацыя гэтай прадукцыі, спірту, сыравіны і алкагольных напояў. Санкцыя артыкула прадугледжвае штраф ад 5 да 200 базавых велічынь.

**Маладзечанскае АУСТ.**

## Сеў за руль з васьміразовым перавышэннем алкаголю

**АШМЯНЫ**

Здарылася гэта ў першы дзень абласнога прафілактычнага мерапрыемства «П'яному за рулём не месца!».

Другі раз за паўмесяца супрацоўнікі аддзялення ДАІ Ашмянскага РАУС затрымалі нецвярозым кіроўцу пагрузчыка. Вясковец на «Амкадоры» 20 жніўня працаваў на сянажнай яме. На працы выпіваў гарэлку. Утрыманне алкаголю на момант агляду перавышала дапушчальнае прыкладна ў восем разоў.

15 жніўня яго пазбавілі права кіравання і аштрафавалі на 1347,05 рублёў. Пастанова не ўступіла ў законную сілу.

**Паводле сайта ДАІ Гродна.**

# На ферме ў Валожынскім раёне нерацыянальна выкарыстоўвалі ваду

**ВАЛОЖЫН**

**Вінаватага ў нерацыянальным выкарыстанні вады прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.**



Фота minpriroda.gov.by.

На ферме ТАА «Тарасава».

На Валожыншчыне на ферме ТАА «Тарасава» нерацыянальна выкарыстоўвалі водныя рэсурсы. Вінаватую службовую асобу прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу, паведамляе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі.

Усяго дзяржінспектары па ахове навакольнага асяроддзя Мінпрыроды за перыяд ад 6 па 10 жніўня правялі 1040 кантрольна-аналітычных мерапрыемстваў, у ходзе якіх знайшлі 842 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства.

Па фактах выяўленых недахопаў выдалі 984 пункты прадпісанняў, рэкамендацый і інфармацыйных лістоў пра ліквідацыю парушэнняў. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 159 вінаватых асоб на агульную суму 26467,65 рублёў.

Акрамя таго, устанавілі 13 фактаў прычынення шкоды навакольнаму асяроддзю, накіравалі чатыры прэтэнзіі пра кампенсацыю шкоды на суму 15061,39 рублёў.

**Паводле сайта Міністэрства прыродных рэсурсаў.**

## Маладзечанец скраў два ровары за адну ноч

**МАЛАДЗЕЧНА**

Раніцай 19 жніўня міліцыя затрымала 25-гадовага маладзечанца, які ноччу скраў два ровары з дамоў на вуліцы Драздовіча.

Мужчыну затрымалі раніцай у кватэры, дзе ён жыў.

Ён ужо быў раней судзімы за маёмасныя злачынствы, вызваліўся з турмы 6 чэрвеня.

Цяпер следчыя праводзяць праверку. Фігурант можа мець дачыненне да іншых падобных крадзяжоў, распавёў «Рэгіянальнай газеце» старшы следчы Маладзечанскага РАУС **Юры Багушэвіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне затрымалі паляўнічых-парушальнікаў

**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

11 жніўня, у дзень адкрыцця летне-восеньскага палявання на вадаплавальную і балотную дзічыну, супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі затрымалі на Вілейшчыне дваіх паляўнічых-парушальнікаў са сталіцы.

Мужчыны палявалі з расчахлёнымі зараджанымі стрэльбамі ў забароненым для палявання месцы. Яны былі на востраве на Вілейскім вадасховішчы ля Ярмолічаў. Гэтая тэрыторыя не ўваходзіць у паляўнічыя ўгоддзі.

З сабой у паляўнічых не было дзяржаўнага пасведчання на права палявання, паляўнічай пуцёўкі на здабычу жывёлы і дазволу органа ўнутраных спраў на захаванне і нашэнне паляўнічай стрэльбы, распавялі ў Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету.

Склалі адміністрацыйныя пратаколы. Парушальнікам пагражае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь. Магчымая таксама канфіскацыя зброі і пазбаўленне права на паляванне.

Мядзельская міжраённая інспекцыя нагадвае, што паляванне дазваляюць толькі ў межах паляўнічых угоддзяў. Акваторыя Вілейскага вадасховішча і астравы у ім да паляўнічых угоддзяў не належаць.

Пра ўсе выпадкі парушэнняў прыроднага заканадаўства просяць паведамляць па тэлефоне (8-01797) **50740** або **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Калі гаспадыня даіла карову, зверху паляцелі іскры

**ВІЛЕЙКА**

13 жніўня каля пяці раніцы жыхарка вёскі Балашы Крывасельскага сельсавета пайшла даіць карову. Раптам са столі хлява паляцелі іскры і знікла святло.

Тут жа жанчына заўважыла, што ў другой частцы хлява загарэлася сена, якое там захоўвалі.

Гаспадыня прынесла вядро вады і заліла агонь. Пажар быццам бы спыніўся. Але пакуль жанчына прынесла другое вядро, сена ўжо гарэла адкрытым полымем.

– Гаспадыня ўжо немаладая, ёй 77 гадоў, хадзіць цяжка, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзяніс Гаўрышчук. –** Пакуль яна ішла, суседзі ўжо самі выклікалі выратавальнікаў.

Прыехала чатыры аўтацыстэрны і «хуткая дапамога».

У выніку пажару хлеў разам з сенам згарэў. Карова і гаспадыня не пацярпелі.

Каб пазбегнуць падобных здарэнняў, супрацоўнікі Вілейскага РАНС нагадваюць:

свяцільнікі ў хлявах абавязкова павінны быць з плафонамі,

злучаць усе правады неабходна з дапамогай спецыяльных зажымаў, зваркі або пайкі,

нельга злучаць правады розных відаў, напрыклад, алюміневы з медным,

нельга выкарыстоўваць старую электраправодку.

## Віляйчане скралі з машын відэарэгістратар і магнітолы

**ВІЛЕЙКА**

Адразу тры крымінальныя справы 13 жніўня ўзбудзілі ў Вілейскім РАСК супраць двух 18-гадовых мясцовых жыхароў.

Ноччу 17 студзеня яны адціснулі шкло ў «Сітраэн Ксантыя», які належаў жыхарцы Вілейкі, і скралі адтуль відэарэгістратар коштам каля 27 рублёў.

У пачатку мая з машыны мясцовага жыхара хлопцы скралі магнітолу, што каштавала 50 рублёў.

Яшчэ адно злачынства фігуранты здзейснілі летась 3 лістапада: адціснуўшы дзверцы машыны, забралі магнітолу коштам 35 рублёў, паведамляюць у Вілейскім РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Мы адчулі сябе сапраўднымі дарослымі. Гэта так крута!»

## Школьнікі з рэгіёна наведалі адукацыйны летнік у Барысаве, дзе вучыліся праграмаванню і робататэхніцы

**Ужо другі год запар такі летнік ладзіць асацыяцыя «Адукацыя для будучыні» сумесна з Epam Systems. Паколькі летнік бясплатны, то патрапіць ў яго можна было на падставе конкурснага адбору. Кожны з кандыдатаў запаўняў анкеты, расказваў пра хобі і адзнакі ў школе, дзяліўся планамі на будучыню.**




Удзельнікі летніка з Вілейкі. Злева направа: Ксюша Лявіцкая, Аліна Пыско, Кацярына Ганчар, Леў Шостак, Яўген Субач, Арцём Архіпаў.

Сёлета арганізатары абралі для ўдзелу сто школьнікаў з Мінскай вобласці. Сярод абраных аказаліся падлеткі з Маладзечна і Вілейкі.

### Кожны атрад – каманда стартапераў

Праграма летніка была настолькі насычанай, што дзеці прызнаюцца – ўражанне, што доўжыўся не тыдзень, а нашмат болей.

**Цягам сямі дзён школьнікі вучыліся праграмаванню, замежным мовам, развівалі сацыяльныя навыкі. А ў вольны час удзельнічалі ў майстар-класах, экскурсіях, спаборніцтвах і творчых конкурсах.**

– Тут усё вельмі крута! – дзеліцца ўражаннямі **Яна Акімава** з Маладзечна. – Кожны дзень вучымся новаму. Асабліва мне падабаюцца заняткі англійскай мовы. У нашай выкладчыцы вельмі высокі ўзровень, я першы раз пачула такую жывую размоўную англійскую!

Яна закончыла сёмы клас маладзечанскай гімназіі №7. Пра летнік даведалася ад класнай кіраўніцы **Дар'і Фамічовай**.

– Вельмі ўдзячная Дар'і Алегаўне, што яна пранавала нам удзел у летніку! – кажа Яна. – Мы тут адчуваем сябе сапраўднымі дарослымі. Кожны ў камандзе адказвае за сваю частку працы, і толькі разам мы можам зрабіць добры праект і перамагчы.

Летнік пабудаваны на канцэпцыі бізнес-інкубатара. Кожны з атрадаў стаў камандай стартапераў, якія распрацоўваюць свой праект.

**Напрыклад, адзін з атрадаў распрацоўваў машыну для сельскагаспадарчых работ. Такую, каб магла і ўспахваць зямлю, і касіць траву, і плаваць пад вадой, збіраючы глей.**

У такім праекце заняты кожны: хтосьці разлічвае фінансы, іншы здымае відэа, а нехта піша тэкст аб праекце на англійскай мове і малюе плакаты для прэзентацыі. Пераможцу ў канцы змены абіралі беларускія і амерыканскія інвестары.

**– Я хадзіў на майстар-класы па мовах праграмавання і яшчэ раз пераканаўся, што мне гэта цікава. Хачу пасля школы вучыцца на праграміста, – дзеліцца ўражаннямі Цімафей Жамойдзін. У маладзечанскай гімназіі №7 ён вучыцца ў паралельным класе з Янай. – Да таго ж кожны дзень у нас праходзілі дыскатэкі, і я паспрабаваў сябе за пультам дыджэя.**

### «Мы хочам «запаліць» дзяцей на вывучэнне жыцця»

Арганізатары летніка імкнуліся паказаць дзецям, што вучоба і адукацыя – гэта цікава. Заняткі праходзілі не толькі за школьнымі партамі, але і на лясных палянах, на прыродзе. Удзел быў неабавязковы – калі некаму стане нудна і сумна, мог проста сысці і знайсці сабе больш цікавы занятак.

– Мы хочам «запаліць» дзяцей на самастойнае вывучэнне жыцця, падтрымаць іх цікаўнасць, – кажа **Варвара Злобіна**, арганізатар летніка і прадстаўнік асацыяцыі «Адукацыя для будучыні». – Вельмі цешыць, што чатыры з шасці праектаў, якія падрыхтавалі школьнікі, былі на экалагічную тэму. Яны ўжо задумваюцца, які след пакідаюць пасля сябе. І яшчэ яны прыемна здзівілі нас сваім камандным духам – вельмі ахвотна дапамагалі і адно аднаму, і трэнерам з арганізатарамі.

Да таго ж, як і ў любым летніку, падлеткі добра пасябравалі за гэты тыдзень і ў апошні дзень ім ніяк не хацелася з'язджаць.

– Тут сабраліся вельмі добрыя і кантактныя людзі, я нават не ўяўляю, як мы будзем раз'язджацца! Я пазнаёмілася тут з аднагодкамі з Жодзіна, Лагойска і Маладзечна, – кажа **Аліна Пыско** з Вілейкі.

Дзяўчына вучыцца ў вілейскай гімназіі №2. У Барысаве яна ўпершыню паспрабавала сябе ў праграмаванні і робататэхніцы. Але ўжо ўпэўнілася, што ёй цікавая гэта тэма, таму хоча і далей вучыцца новаму ў гэтай сферы.

**Школьнікі вельмі спадзяюцца, што ў наступным годзе летнік паўторыцца і яны змогуць зноў адчуць цябе сапраўднымі вучонымі і даследчыкамі.**

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб’яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ФВ-Пасат В-6, 2010 г.в., 1,4 tsi бензін, універсал, чорны, 2 ключа, два камлекты гумы, невялікі прабег. У добрым стане. Т. МТС (8-033) 6714366.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў п. Чысць, пл. 42,3. Т. (8-029) 3802974.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7725105.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева, 62, 61,3 кв. м, 5 паверх, 70 000 руб. Т. (8-029) 5056728.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2 паверх, вул. Валынца, або абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Дача ў в. Заскавічы. Нядорага. Т. (8-029) 8874551.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом новы 2-узроўневы, 6х6,5, у в. Насілава, драўляны, абкладзены цэглай, 0,22 га, сад, калодзеж. Побач газапровад, вадаправод. Побач электрычка і гарадскі аўтобус. Т. Вэлком (8-029) 9430755.*

• Дом у а.г. Ілья. Т. МТС (8-029) 8924764. Анатоль.*

• Дом у в. Курнікі, Іжскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-01771) 45540.

• Зруб дома 6х12 метраў. Т.МТС (8-029) 7459993, МТС (8-029) 5622825.*

### КУПЛЮ

• Дом альбо дачу ў добрым стане, недалёка ад чыгункі. Т. (8-029) 1815904.*

### ЗДАМ

• Кватэру альбо пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бусы 1,5 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыенту. Біялогія. Хімія. Індывідуальны падыход. Досвед працы. Высокі вынік. Тэлефанавань увечары. Т. (8-029) 3275496.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Будаўніцтва, рэканструкцыя, рамонт малапавярховых будынкаў, дамоў, катэджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ТАА «БілдСтайл» УНП 690668121. Т. (8-033) 6654173, (8-01771) 23349.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мэбля пад заказ. Кухні, шафы-купэ, прыхожыя і г. д. ІП Зенюк А. П. УНП 691183866. Т. (8-029) 3652054, (8-029) 5652044.

• Вонкавая рэклама: шыльдачкі на дом – 10 руб, куток пакупніка – 15 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЗВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцэраль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Тахта дзіцячая, шырыня 85 см, даўжыня 2,10 м. У выдатным стане. Т. (8-033) 6206381.

• Тэлевізар, стол-кніга, пральная машына, кранштэйн пад тэлевізар, камплект для ванны. Нядорага, б/у. Т. (8-029) 6870310.

**Музінструмент**

• Нямецкі акардэон. Т. (8-029) 7005236.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова малочная голштынскай пароды (два ацёлы) у Маладзечне. Тэрмінова! Цана дагаворная. Т. (8-0176) 732605, (8-033) 6192475 Тэрэса Балеславаўна.*

• Карова малочная (два ацёлы). Ёсць сена і дзільны апарат. Т. (8-0440 7680257.

**Іншае**

• Вароты гаражныя з брамкай (калиткой) 286*206. Т. (8-029) 5104505.

• **РЭЙКА МАНТАЖНАЯ** 20 х 40 мм. Магазін завода ЗЕНІТ рэалізуе рэйку мантажную даўжынёй 2 і 3 м з дрэва хвойных парод тэхнічнай сушкі для абіўкі дамоў сайдынгам, блок-хаусам і імітацыяй бруса. Кошт 1 м.п. – 90 капеек. Пад заказ магчымы выраб рэек любога сячэння і дастаўка на аб’ект пакупніка. ААТ «Зеніт-БелОМО», УНП 600102155. Т. (8-01771) 32937, (8-033) 9004009.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Ціскі. Т. (8-029) 2375721.*

### АДДАМ

• **АДДАМ ДВУХ ПРЫГОЖЫХ І ЛАСКАВЫХ КОЦІКАЎ У ДОБРЫЯ РУКІ. Т. (8-029) 6095700.***

• **АДДАМ МІЛАЕ РУДОЕ КАЦЯНЯ Ў ДОБРЫЯ РУКІ. Т. (8-025) 5359741.***

• **АДДАМ ТРОХ ПЯШЧОТНЫХ І ПРЫГОЖЫХ КОЦІКАЎ ТРОХКАЛЯРОВАГА АКРАСА Ў ДОБРЫЯ РУКІ. МАЛАДЗЕЧНА. Т. Вэлком (8-029) 1700595, (8-0176) 533377.***

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Будаўнічай арганізацыі патрабуюцца рабочыя будаўнічых прафесій: муляр, тынкоўшчык-маляр, цясляр. ТАА «БілдСтайл» УНП 690668121. Т. (8-033) 6654173, (8-01771) 23349.*

• Спецыялісты па устаноўцы міжпакаёвых дзвярэй, уваходных металічных, вокнаў ПВХ. Пажадана са сваім транспартам. Высокая аплата. Пастаянная работа. ІП Ляхновіч А.Д. УНП 692021915. Т. МТС (8-029) 8381102.

• Фасадчыкі, страхары (кровельщики) шыфернага і мяккага даху. Т. (8-029) 6257070.*

• Фермеру ў в. Забрэззе Валожынскага раёна патрабуюцца дапаможнікі па гаспадарцы. Прадастаўляецца жыллё. Даведкі па тэлефоне (8-029) 6162240. Аляксандр.*

• Электразваршчыкі на п/а машыны і слесары па зборцы металаканструкцый. Т. (8-029) 8847300.

● НАМ ПІШУЦЬ



Здымак 2000 года шахты ў французскім Алесе.

## 26 жніўня – Дзень шахцёра

**Вось і дачакаўся я сёлета чарговага прафесійнага свята.**

Ад савецкіх часоў яно прызначанае на апошнюю нядзелю жніўня. А ў Францыі, дзе я нарадзіўся, свята адзначаюць 4 снежня, у дзень заступніцы гарнякоў святой Барбары.

Праца шахцёра на глыбіні ў некалькі сотняў метраў па здабычы вугля, солі ці іншых выкапняў. Замалёўкі рабочых момантаў я прадставіў праз свае фотадымкі, якія можна было пабачыць на фотавыставе ў Маладзечне «Шахта і шахцёры».

Гэтыя здымкі рабіў падчас працы ў шахце Данбаса (Данецка). Імкнуўся адлюстраваць рэальныя моманты працы горнарабочага ў забое і на гарах. Гэта найцяжэйшая фізічная праца.

З дзяцінства ведаю прапагандысцкі лозунг: «Шахта – гэта другі фронт».

На гэтым фотадымку выява капра, які стаіць над ствалом шахты для спуску і пад'ёму гарнякоў, выдачы вугля і падачы ці выдачы абсталявання.

Сардэчна нагадваю пра гэта свята. Няхай здароўе будзе, як тады ў забоях. Са святам, сябры-шахцёры і вашы сем'і.

**Аляксандр САЛАГУБ,**
**Маладзечна.**
**Фота забяспечана аўтарам.**

## Дзіцячы сад-сярэдняя школа ў Мацькаўцах стане дзіцячым садам-базавай школай

ВІЛЕЙКА
СМАРГОНЬ

**Ад новага навучальнага года рэарганізуюць вучэбна-педагагічны комплекс «Дзіцячы сад-сярэдняя школа» ў Мацькаўцах, што на Вілейшчыне.**

Цяпер установа стане «Дзіцячым садам-базавай школай», паведамляе БелТА.

Сёлета ў рэгіёне зачыняюць толькі адну навучальную ўстанову – Ракавецкі вучэбна-педагагічны комплекс яслі-сад-базавая школа, што ў Смаргонскім раёне.

**Аддзел інфармацыі.**



Абірайце карысны кавун, каб ён не нашкодзіў здароўю.

Фота wallpapers.99px.ru

# Як выбраць карысны кавун

## Пра ўсе нюансы расказвае доктар-гігіеніст

**Сезон кавуноў пачынаецца ў ліпені і працягваецца да верасня. Найбольш небяспечныя раннія кавуны, якія прадаюцца ў першай палове ліпеня. Імі часцей атручваюцца з-за нітратаў.**

Самі па сабе нітраты не нясуць асаблівай небяспекі. Але калі трапляюць ў страўнікава-кішачны тракт, ператвараюцца ў нітрыты – солі азотнай кіслаты. Яны вельмі таксічныя для арганізма, прыводзяць да кіслароднага галадання тканак.

Нітраты могуць змяншаць колькасць вітамінаў з ежы, што паступае ў арганізм, прывесці да праблем са шчытападобнай залозай. Перавышэнне сутачнай нормы спажывання нітратаў можа прывесці да расстройства страўніка з пасіненнем скуры, цяжкасцю дыхання, дыярэяй і іншых непрыемных прыкметаў харчовага атручвання.

Каб засцерагчы сябе, купляйце кавун, звяртаючы ўвагу на некаторыя важныя прыкметы.

• Саспелы кавун будзе буйны, але не цяжкі.
• Калі па ім пастукаць, выдае глухі гук.
• Трашчыць пры сцісканні.
• Пладаножка сухая.
• Выразна бачны паласаты малюнак.
• Жоўтая земляная пляма на баку, не вельмі вялікая.
• Верхні пласт бліскучы, без матавага налёту.

Купляйце кавуны толькі ў спецыялізаваных месцах і на рынках. Абавязкова спытаеце ў прадаўца дакументы, якія пацвярджаюць якасць і бяспеку. Не купляйце кавуны з пашкоджанай скарынкай або разрэзаныя. І перад ужываннем старанна вымыйце.

**Кацярына ПТАШНІК,**
**доктар-гігіеніст**
**аддзялення гігіены харчавання**
**аддзела гігіены**
**Маладзечанскага занальнага**
**Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## Пра вядзенне Кнігі ўліку даходаў і расходаў у сялянскай (фермерскай) гаспадарцы (СФГ)

**Пастановай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання №63 ад 9 ліпеня 2018 года ўстанавілі Кнігу ўліку даходаў і расходаў сялянскай (фермерскай) гаспадаркі (далей – Кніга). Зацверджаная інструкцыя па яе запаўненні.**

Ад 1 студзеня ўступіў у сілу Указ «Аб бухгалтарскім уліку ў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках» №311 ад 31 жніўня 2017 года (далей – Указ №311). Ім вызначана, што СФГ могуць весці спрошчаны бухулік у адпаведнасці з п. 1 Указа №311 толькі пры ажыццяўленні дзейнасці па вытворчасці прадукцыі раслінаводства і (або) жывёлагадоўлі. Таксама па перапрацоўцы такой прадукцыі і адначасовым выкананні ўсіх умоў, указаных у дадзеным пункце.

Пры гэтым важна мець на ўвазе, што названая норма тычыцца толькі СФГ – плацельшчыкаў адзінага падатку для вытворцаў сельгаспрадукцыі.

Ад 1 студзеня агульны бухулік плацельшчыкі адзінага падатку маюць права замяніць улікам ў Кнізе, але толькі ў частцы дзейнасці, звязанай з вытворчасцю сельгаспрадукцыі, у іншых выпадках такі ўлік не ўжываецца (п. 1.4 Указа №311).

Зыходзячы з выкладзенага СФГ можа весці ўлік у Кнізе толькі пры ажыццяўленні дзейнасці па вытворчасці сельгаспрадукцыі. Менавіта па вытворчасці прадукцыі раслінаводства і (або) жывёлагадоўлі, а таксама па перапрацоўцы гэтай прадукцыі. Калі ж СФГ дадаткова займаецца іншай дзейнасцю, яно не мае права весці бухулік ў Кнізе, г.зн. не маюць права прымяняць п. 1 Указа №311 да ўсіх відах дзейнасці.

**Інспекцыя МПЗ**
**па Маладзечанскім раёне.**

## Дазволена палявць на аленя і лася

У адпаведнасці з правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў перыяд ад 20 жніўня да 30 верасня дазваляецца паляванне на дарослых самцоў лася, аленя высакароднага, аленя плямістага і лані. Таксама на селекцыйных жывёл гэтых відаў любога полу і ўзросту.

Паляваць можна цягам сутак спосабамі з засады і з падыходу.

Дазваляецца выкарыстоўваць наразную (з дульнай энергіяй кулі звыш 3000 джоўляў), гладкаствольную (з выкарыстаннем патронаў з куляй) і кідальную (лукі і арбалеты) паляўнічую зброю.

Да 30 верасня працягваецца паляванне на казулю (адкрылася 15 мая). Здабываць можна дарослых самцоў і селекцыйныя асобіны.

**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Маладзечанец аўтаспынам паехаў у Кітай

## Пабываў у шасці краінах, але ў Кітай так і не патрапіў

МАЛАДЗЕЧНА

**Арцём Лях разам з сябрам Максімам Казярскім з Лунінца праехаў сёлета аўтаспынам па Украіне, Расіі, Грузіі, Арменіі, Азербайджане і Казахстане.**

Арцём звярнуўся ў рэдакцыю «РГ» пасля таго, як у нумары за 10 ліпеня прачытаў гісторыю **Сяргея Шабуні,** які праехаў аўтаспынам 7000 кіламетраў. Хлопец захацеў падзяліцца сваім першым досведам такога падарожжа.

– Усё пачалося з прагляду відэаролікаў пра вандроўкі. Раней быў у Маскве, Піцеры, Кіеве, Вільні, Варшаве. Але гэта проста – аплаціў, цябе давезлі. Калі не ведаеш, дзе будзеш начаваць, што есці – вось што прыцягвае. Знаёмыя паехалі ў падобнае падарожжа ў Кітай. Адзін застаўся там, а з тым, што вярнуўся, мы пагутарылі, і я загарэўся. Гэта быў ключавы момант. Прапанаваў сябрам паехаць, Максім пагадзіўся. Мы хацелі даехаць да Кітая, – распавядае Арцём.

Хлопцы сталі планаваць маршруты і збіраць рэчы. Каб не лічыць час у дарозе, падарожнікі звольніліся з працы. Падчас выезду мелі тры мэты: трапіць у Сочы на Чэмпіянат свету па футболе, убачыць Каўказ і прыехаць у Кітай.

### Чаму зручна карыстацца каўчсёрфінгам

Калі ехалі, планавалі шукаць жыллё праз каўчсёрфінг ці жыць у самых танных хостэлах, бралі палаткі.

**Каўчсёрфінг – адна з найбуйнейшых гасцявых сетак, выглядае як анлайн-сэрвіс. Карыстальнікі прадастаўляюць бясплатны начлег падчас падарожжаў і арганізуюць сумесныя вандроўкі.**

– У асноўным прымалі былыя падарожнікі. Раілі лепшыя трасы, дзяліліся гісторыямі жыцця, – расказвае Арцём. – Каўчам у Грузіі, Арменіі і Азербайджане не карысталіся. Мясцовыя жыхары не хацелі нас прымаць. Каб дамовіцца пра начлег у іншаземцаў, трэба добра ведаць мову, таму ім не пісалі. А яшчэ жыхары гэтых краін шукаюць пераважна дзяўчын, разумееце? Колькі пісалі, ніхто не адказаў. Запомнілася, як жылі неяк па каўчу ў Казахстане ў хлопца Бекболата. Дзевяць вечара, ляжу і чую – пачынаюць маліцца. Такі антураж. У мяне мурашкі па скуры беглі.

### «Мяне натхнялі людзі»

У хостэлах хлопцы сустракалі пераважна іншаземцаў. Англічаніна, які падарожнічае з дапамогай валанцёрскіх праграм і ад 2002 года не быў у Англіі. Казаха, што праехаў 75 краін і марыць пабываць усюды.

– Калі чую такія жыццёвыя гісторыі, разумею, наколькі мала бачыў. Гэтыя людзі натхняюць, бо які сэнс дапрацаваць да пенсіі? Самы вялікі кайф атрымаў ад зносінаў. У Батумі чатыры дні жылі інтэрнацыянальнай кампаніяй: мы з Максам, тры казаха, украінец, немец, карэец, чэх, грузін. Нават моўнага бар'ера не было. Калі ўспамінаеш такія моманты, думаеш, вось бы паўтарыць. Я і цяпер з многімі размаўляю праз Фэйбук.

### Нечаканасці ў дарозе

Максімальны час, што хлопцы стаялі на дарозе, – сем гадзін. Па словах Арцёма, мужчыны падбіралі ахвотней. Са 122 машын толькі ў шасці кіроўцамі былі жанчыны.

Часам у падарожжы здараліся нечаканыя выпадкі. На пакручастай горнай дарозе – серпанціне – паміж грузінскімі гарадамі Зугдзідзі і Месціай хлопцы спынілі людзей, якія дрэнна разумелі рускую. Спачатку браць не хацелі – не ўсведамлялі, як можна ездзіць без грошай, але быццам пагадзіліся.

Калі падарожнікі селі ў машыну, кіроўца нечакана ўключыў музыку на ўсю моц. «Ну які нармальны чалавек уключыць музыку, калі за ім два пасажыра?» – абураецца Арцём. Потым кіроўца наогул выехаў на сустрэчную паласу і пачаў дрыфтаваць.

– Думаю, ці лабавое будзе, ці вылецім у прорву. Не ведаю, навошта ён гэта рабіў. На сярэдзіне дарогі кіроўца сказаў, каб выходзілі. Было страшнавата неяк.

У Батумі вандроўнікі начавалі на пляжы. Арцём паставіў палатку так, каб вецер не дзьмуў з мора, ля кафэ. Прачнуўся ад таго, што нехта штурхаў палатку.



Арцём Лях у Ерэване.

Аказалася, два чалавекі сядзелі на шэзлонгу побач з палаткай і пхалі яе нагамі. Яны былі незадаволеныя тым, што намёт стаіць на прыватнай тэрыторыі. «Не зразумеў, чаму нельга было не рваць, а па-чалавечы патлумачыць», – кажа хлопец.

### Чаму ў Арменіі аблівалі з вадзяных пісталетаў

– Да мяжы з Арменіяй ехалі на фуры. Перайшлі мяжу пешшу, дамовіліся з кіроўцам, калі нікога не застопім, ён нас забярэ. Сцямнела, дзьмуў халодны вецер. Схаваліся і чакалі фуру, апранулі ўсе свае цёплыя рэчы. Наша машына ішла чацвёртай, пачалі лічыць. Далічылі — а фура не наша. Разумеем – усё, прыйдзецца замярзаць, – расказвае хлопец. – Ідзе чалавек, пытаецца, адкуль мы. Кажам – з Беларусі. Запрасіў да сябе, у маленькі домік. Тры ложкі ў пакоі і буржуйка ў цэнтры. І ты разумееш, што пяць хвілін таму планаваў начаваць пад шквалістым ветрам, а цяпер у цёплым доме.

Армяне спадабаліся Арцёму гасціннасцю. Многа частавалі хлопцаў: танам – кісламалочным напоем, фруктамі. Запомнілася і нацыянальнае свята Вардавар.

– На яго прынята абліваца вадой. Любы сустрэчны можа цябе абліць. Дзеці бегаюць за табой з вёдрамі. Мяне з вадзяных пісталетаў аблівалі.

### У Азербайджане шмат «грошапросаў»

У Азербайджане, акрамя Баку, рускую мову ведаюць дрэнна.

– Заўсёды перакладалі «я падарожнічаю без грошай» і казалі падчас спыну, – дзеліцца Арцём. – У Азербайджане шмат «грошапросаў» – тых, хто на спыне хоча зарабіць. Неяк ехалі да Баку, 360 кіламетраў, спынілі машыну, кажам, што без грошай. Кіроўца пагаджаецца. Заўважаем у машыне шыльду з надпісам «Баку». Пытаюся: ты таксіст? Кажа: так. У выніку так і не паразумеліся.

Менавіта ў Баку вандроўнікі атруціліся ежай. Максіма забрала «хуткая», праз нейкі час вярнуўся здаровым. А вось Арцёму не так пашанцавала – тэмпература трымалася два тыдні. Таму вырашыў вяртацца дадому. Максім паехаў далей.

### Чаму добра падарожнічаць удваіх

– Я не адзіночка, не падабаецца ездзіць аднаму. Дадому вяртаўся – сумна. Стэп вакол, стаіш адзін на трасе, вады мала, дарога дрэнная, машыны не спыняюцца, – разважае Арцём. – З сябрам лепш. Больш бяспечна – розныя кіроўцы бываюць. Калі адзін чалавек не разумее чужую мову, другі можа патлумачыць. І вельмі класна, калі ёсць той, з кім можна падзяліцца эмоцыямі і думкамі. Маральная падтрымка неабходная.



Жэст, якім аўтаспыншчыкі «галасуюць» – ловяць машыну.

### Якім становіцца жыццё пасля аўтаспыну

Цяпер Арцём плануе наняць кватэру, знайсці працу і планаваць, куды паедзе наступным летам – Кітай усё ж такі не скораны. Яшчэ хлопец хоча выцягнуць на размоўны ўзровень англійскую мову. Ён лічыць, што без яе вандраваць можна, але паўнавартасна гутарыць з іншаземцамі немагчыма.

– Пасля паездкі перастаў баяцца нешта рабіць, стала ўсё роўна, што пра мяне падумаюць людзі, – кажа Арцём. – І яшчэ ведаю, калі ўбачу на трасе спыншчыка, дакладна падбяру. Мне дапамагалі, і я дапамагу абавязкова.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фотаздымкі забяспечаныя Арцёмам ЛЯХАМ і Максімам КАЗЯРСКІМ.**

# Астравец з размахам святкуе юбілей
## Праграма

**Сёлета Астравец адсвяткуе 550-годдзе. Галоўныя ўрачыстасці Дня горада пройдуць у суботу, 25 жніўня.**

На галоўнай сцэне ў цэнтры горада адбудзецца ўрачыстае адкрыццё свята, пройдуць канцэртныя праграмы творчых калектываў Астравеччыны, выступяць зоркі, зладзяць вячэрняе фаер-шоу. У гарадскім парку размесціцца «Горад майстроў», дзе прадставяць вырабы запрошаныя з усіх куткоў Беларусі майстры. Ноччу цэнтр горада ператворыцца ў вялікі танцпол пад адкрытым небам з удзелам вядомага сталічнага ды-джэя і вядучага.

Для дзяцей уладкуюць цэлы «Горад» з атракцыёнаў, батутаў, каруселяў, электрамабіляў, ростовых лялек, інтэрактыўных гульняў з аніматарамі.




Святочная паштоўка з фота Астраўца з вышыні.

### Праграма мерапрыемстваў 25-26 жніўня

**Плошча па Ленінскай (цэнтр Астраўца)**

10.00-11.00 – Выступ ваеннага аркестра, роты ганаровай варты органаў памежнай службы.

11.00-12.30 – Адкрыццё свята. Канцэрт выканаўцаў і калектываў аматарскай творчасці Астравеччыны «Жыву табою, Астравец!»

12.30-14.00 – Канцэрт нацыянальнага акадэмічнага народнага хора імя Цітовіча.

14.00-14.30 – Канцэртная праграма народнага струннага ансамбля «Кантрасты» Смаргонскага раёна.

14.30-15.10 – Ушанаванне маладых, якія зарэгістравалі шлюб 25 жніўня, юбіляраў сумеснага жыцця.

15.10-16.10 – Канцэртная праграма народных калектываў Астраўца.

16.10-17.00 – Выступ этнагурта «PAWA» (Мінск).

18.00-20.00 – Канцэрт фіналістаў рэспубліканскага моладзевага конкурсу «Новыя імёны Беларусі-2018» Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі з удзелам артыстаў беларускай эстрады.

20.10-21.00 – Канцэрт моладзевай кавер-групы «Вегас бэнд» Астраўца.

21.00-22.30 – Канцэрт беларускага спевака Дзмітрыя Калдуна.

22.30-23.15 – Вогненнае шоу.

23.15-01.00 – Шоу-дыскатэка пад адкрытым небам з удзелам беларускага ды-джэя, вядучага з Мінска.

09.00-23.00 – Выязны святочны гандаль. Рэстаран пад адкрытым небам.

09.00-16.00 – Выстава-прэзентацыя падворкаў, аб'ёмных кампазіцый арганізацый, прадпрыемстваў Астравеччыны «З 550-гадовым юбілеем, Астравец!»

**Храм святых апосталаў Пятра і Паўла ў Астраўцы**

09.00-11.00 – Боская літургія.

Ад 12.00 на працягу дня Батлейка (дзіцячы лялечны тэатр), Касцёл Святых Касмы і Даміяна ў Астраўцы.

10.00-11.00 – святая імша за ўсіх жыхароў Астраўца, Касцёл Святой Тройцы ў Гервятах.

16.00-17.00 – Канцэрт арганнай музыкі. Экскурсія.

**Адкрытая пляцоўка ля фізкультурна-аздараўленчага комплексу**

10.00 – Адкрыццё фізкультурна-аздараўленчага комплексу.

**Адкрытая пляцоўка ля пажарна-аварыйна-выратавальнай часці**

09.30 – Урачыстае адкрыццё пажарна-аварыйна-выратавальнай часці №3 Астраўца.

**Пляж каля вадаёма ў другім мікрараёне Астраўца**

10.00-11.00 – Спартыўнае свята «Плаванне «Хоць на чым».

11.00-17.00 – Турнір па пляжным валейболе.

13.00-15.00 – Спаборніцтвы па сілавым экстрыме «Астравецкі асілак-2018».

**Гарадскі парк Астраўца па Ленінскай**

На працягу дня:

– выстава-продаж дэкаратыўна-прыкладной творчасці «Горад майстроў»;

– фотавыстава «Астравеччына – мая малая радзіма»;

– фестываль сямейных традыцый;

– выстава дзіцячай творчасці.

**Памяшканне ЗАГСа (Кастрычніцкая, 1)**

На працягу дня:

«Мастакі – гораду!» Выставы жывапісу Бірутэ Куцкайтэ, Тэрэзы і Вікторыі Варановіч

**Востраў ля Храма святых апосталаў Пятра і Паўла, набярэжная Лошы**

10.30 – Адкрыццё скульптурнай кампазіцыі «Ласось»

09.30-19.00 – Інтэрактыўная зона «Вада»;

– спаборніцтвы на водных роварах (катамаранах);

– спаборніцтвы катэраў на радыёкіраванні;

– майстар-класы па вырабе паруснікаў.

19.00-19.30 – Масавы запуск паруснікаў па Лошы.

10.00-19.00 – Інтэрактыўная зона «Вецер»

– фестываль паветраных змеяў;

– майстар-класы па вырабе паветраных змеяў і круцёлак;

– конкурсная праграма;

– сады ветру;

– масавы запуск паветраных змеяў жыхарамі Астраўца.

16.00-16.45 – Прафесійнае шоу паветраных фігур.

12.00-18.00 – Інтэрактыўная зона «Сонца»: фудкорт на траве (падрыхтоўка і раздача ежы гасцям мерапрыемства).

13.30-15.00 – Навукова-папулярнае ток-шоу «Навука смачна»

15.00-16.00 – Забаўляльнае гастранамічнае шоу

10.00-19.00 – Інтэрактыўная зона «Атам»

– гіганцкі канструктар,

– атамныя гульні,

– бяспройгрышная латарэя,

– атамны хранограф,

– атамныя прафесіяналы

23.30 – Святочны феерверк. Святло-лазернае шоу

**Кінаканцэртная зала «Астравец» (Кастрычніцкая, 3)**

09.00-18.00 – Выстава-конкурс на лепшую музейную экспазіцыю «Гісторыя Астраўца»

15.00-18.00 – Дэманстрацыя відэароліка пра Астравец.

– Прэзентацыя кнігі «Гісторыя Астравецкай сярэдняй школы №1»

– Навукова-практычная канферэнцыя «Навуковая і культурная спадчына Астравеччыны»

– Пляцоўка каля кінаканцэртнай залы «Астравец»

На працягу дня праца дзіцячых атракцыёнаў (батуты, горкі, электрамабілі)

**Гульнявыя праграмы для дзяцей**

13.00-15.00 – Раённае творчае мерапрыемства:

– «Юныя прыхільнікі паэзіі»;

– «Танцавальны MIX»;

– «Нашых песень дзіўнае жыццё»;

– «Парад музычных інструментаў»

15.00-18.00 – Фестываль моладзевай творчасці «Я люблю свой горад!»

09.00-18.00 – Выстава-конкурс макетаў «Астравеччына ў мініяцюры» (намінацыі «Мадэль горада Астраўца», «Славутасці малых архітэктурных формаў», «Я і мой горад: учора і сёння», «Астравец будучыні»)

Выстава-конкурс на лепшую самаробную кнігу «З юбілеем, родны горад!»

**Аўтамабільная стаянка ля будынка старога млына па Кастрычніцкай**

На працягу дня

– Выстава тэхнікі «Рэтра і Кастам Мота». Святочная фотазона

**Стадыён СШ №2 Астраўца**

12.30-13.30 – Ваенная палявая кухня: салдацкая каша, юшка (бясплатна).

13.00-13.30 – Паказальныя выступленні кінолагаў, дэманстрацыя элементаў пажаратушэння, выстава парод службовых сабак.

На працягу дня

– Выстава ваеннай, спецыяльнай тэхнікі РАНС.

– Цэнтр бяспекі для дзяцей: спаборніцтвы па пажарным спорце, гульні, майстар-класы.

**На працягу дня ў Астраўцы**

Дэманстрацыйныя палёты пілотаў-дэльтапланерыстаў, аглядныя палёты на дэльтаплане, верталёце (пры спрыяльных умовах надвор'я)

– Праца вулічных аніматараў на хадулях, «жывых статуй»

– Праца луна-парку (атракцыёнаў)

«Астравецкі раённы Цэнтр культуры і народнай творчасці» (танцавальная зала «Галактыка»)

01.00-03.00 – Святочная дыскатэка.

**Паводле інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама.**

# Як жыхароў Маладзечаншчыны пакаралі за іх працавітасць

## Гісторыя кулакоў з вёскі Хатуцічы, якіх выслалі ў Казахстан

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэтым артыкуле я хачу распавесці аб сваіх хатуціцкіх суседзях – працавітых людзях, асуджаных савецкай уладай і вывезеных у Казахстан у красавіку 1952 года. На родную Маладзечаншчыну яны не вярнуліся.**


Фота забяспечанае Віктарам ГОЛУБАМ.

Канец 1950-х. Казахстан, горад Жэтысай. Сям'я Монідаў: у капелюшы Ігнацій, побач жонка Ганна. З імі сын, нявестка, дачка і ўнучкі.

Хатуцічы – невялічкая вёска на 70 хат у Лебедзеўскім сельсавеце на Маладзечаншчыне, вядомая ад 16 стагоддзя.

За гады савецкай улады з Хатуцічаў вывезлі тры сям'і кулакоў: дзве ў 1940 годзе і адну – у 1952. Усіх 25 чалавек.

### Нажытае цяжкай працай не хацелі аддаваць у калгас

У Хатуцічах жыло шмат людзей з прозвішчам **Моні**д. Таму сем'і адрознівалі па мянушках. Вясковая мянушка тых кулакоў была **Базмалі**. Сям'я складалася з бацькі **Ігнація Моніда** (1900-1968), маці **Ганны Монід (Сівіцкай)** і дзяцей: **Яўгена, Любові, Валянціны, Ніны** і **Анатоля.**

За польскім часам Ігнат набыў каля 40 гектараў добрай зямлі, бо ездзіў на заробкі ў Латвію. У сям'і было тры коні, тры каровы, дзве свінаматкі, шмат авечак, трусоў. На час жніва наймалі двух работнікаў. Моніды мелі таксама сваё гумно, малатарню, конную жняярку.

Бацькі мусілі шмат працаваць на ўласнай зямлі, бо ўсе дзеці вучыліся. Люба ў Вільні – на настаўніцу, Валя там жа – на бухгалтара. Політэхнічны інстытут заканчваў Анатоль, Ніна вучылася на медсястру ў Юрацішках. Нажытае цяжкай сялянскай працай Моніды не хацелі аддаваць у калгас.

У верасні 1951 года Савет міністраў СССР прыняў Пастанову аб высяленні кулакоў з БССР. Трэба было ў сціслыя тэрміны да канца 1952 года закончыць калектывізацыю.

Хто не жадаў ісці ў калгас і меў моцную гаспадарку, таго загадвалі вывезці. Спісы такіх людзей рыхтавалі мясцовыя абкамы. Маладзечанскім абкамам у тыя часы кіраваў **Іван Клімаў.** Зацвярджалі спісы ў Савеце Міністраў БССР.

По ўспамінах дачкі Ніны, красавіцкай раніцай 1952 года да хаты Монідаў пад'ехала фурманка з міліцыянерам і вайскоўцам з вінтоўкай. Дома заспелі толькі Ніну з бацькамі. Астатнія дзеці былі хто – на вучобе, хто – на заробках.

Бацькам і дачцэ загадалі збірацца. З сабой дазволілі ўзяць асабістыя рэчы. Гаспадарам прад'явілі Пастанову аб арышце і высяленні. Склалі акт канфіскацыі і пратаколператрусу.

Міліцыянер і вайсковец вынеслі з хаты куфры з даматканым палатном, кажухі, лепшае выхадное адзенне, мэблю, посуд.

Сям'ю павезлі на станцыю ў Маладзечна. Праз два дні, калі назбіралася больш кулакоў, людзей загрузілі ў вагоны-цялятнікі і пад вартай павезлі ў Казахстан.

### Добрымі гаспадарамі маладзечанцы былі і ў Казахстане

Прыехалі ў горад Чымкент (цяпер Шымкент). Тут людзей размеркавалі на спецпасяленне. Монідаў накіравалі ў пасёлак Мікаян, што на поўдні Казахстана.

У Мікаяне былі адныя ссыльныя: грэкі, немцы, палякі, татары, украінцы. Усіх непаўналетніх дзяцей з такіх сем'яў забіралі і накіроўвалі ў спецшколы за 300-500 кіламетаў ад бацькоў.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Так сёння выглядае дом у Хатуцічах, які некалі належаў вялікай і працавітай сям'і Монідаў.

Ігната Моніда ў 1952 годзе накіравалі працаваць на шахту. Яго жонка Ганна пайшла ў саўгас. Дачка Ніна працавала ў мясцовай бальніцы адразу санітаркай, а потым медсястрой.

Астатніх дзяцей Монідаў ніхто не шукаў. Яны так і засталіся ў Беларусі. А праз тры-чатыры гады сыны Яўген і Анатоль самі прыехалі да бацькоў. Сёстры Любоў і Валянціна засталіся ў Вільні.

Пасля 1955 года прaвялі частковую амністыю тых, хто жыў у спецпасяленнях. З пасёлка Моніды перасяліліся ў горад Жэтысай, раённы цэнтр. Ігнат пабудаваў тут вялікі дом, пасадзіў вінаграднікі і сад. Жылі нядрэнна. Зноў сталі трымаць моцную гаспадарку: дзвюх кароў, шмат авечак, мелі бахчу.

Сыны далёка ад бацькоў не паехалі. Працавалі ў Алма-Аце. Глава сям'і Ігнат памёр у 1968 годзе. Пахаваны ў Жэтысаі. Жонка Ганна ў 1991 годзе пераехала да дачок у Вільню. Памерла ў 2001, пражыўшы 93 гады.

### Калодзеж засыпалі, гаспадарчыя пабудовы разабралі

У 1991 годзе дачка Монідаў Валянціна звярнулася ў Маладзечанскі архіў, а таксама ва Упраўленне КДБ па Мінскай вобласці. Хацела адшукаць звесткі пра сваю сям'ю і адабраную маёмасць бацькоў.

Жанчына атрымала даведку, што яе сям'я рэабілітаваная за адсутнасцю склада злачынства. Акты канфіскацыі маёмасці і свойскай жывёлы са справы зніклі. Па дакументах застаўся толькі дом у Хатуцічах.

Дом быў на балансе ў мясцовага калгаса. Тут месцілася бібліятэка і клуб. Калодзеж засыпалі. Усе гаспадарчыя пабудовы разабралі і вывезлі.

Родны дом Валянціна прадала за тысячу савецкіх рублёў. А праз два месяцы адбылася дэвальвацыя і за гэтыя грошы можна было набыць дзесяць булак хлеба…

**Віктар ГОЛУБ, Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

**24 ЖНІЎНЯ**

**1906.** У фальварку Баўдыры Ашмянскага павету нарадзіўся беларускі грамадска-палітычны дзеяч Юльян Саковіч.

**1991.** Украіна абвясціла незалежнасць.

**25 ЖНІЎНЯ**

**1953.** У Полацку нарадзіўся беларускі празаік, паэт і гісторык Уладзімір Арлоў.

**1991.** Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі нададзеная сіла канстытуцыйнага закону. Прыпыненая дзейнасць КПБ.

**26 ЖНІЎНЯ**

**1962.** У Маркаве Маладзечанскага раёна нарадзілася беларуская паэтка, журналістка і перакладчыца Тацццяна Сапач (Дубавец). Трагічна загінула 27.12.2010. Штогод у Маркаве ў апошнія дні жніўня ў памяць Таццяны Сапач ладзяцца літаратурныя чытанні.



**27 ЖНІЎНЯ**

**1920.** Польска-бальшавіцкая вайна. Савецкія войскі, якія пасля праігранай Варшаўскай бітвы ўцякалі на Маскву, перадалі Вільню літоўцам.

**28 ЖНІЎНЯ**

**1915.** У вёсцы Бойдаты Ваўкавыскага павету нарадзіўся беларускі дзеяч Часлаў Найдзюк. Падчас нямецкай акупацыі – старшыня акруговага міравога суда ў Вілейцы.

**29 ЖНІЎНЯ**

**1930.** Прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі распусціў парламент. Гэта быў чарговы крок да ўмацавання ў краіне дыктатуры Юзафа Пілсудскага. У тым самым годзе Масціцкі наведваў Вілейшчыну.

**30 ЖНІЎНЯ**

**1481.** У Вільні за змову супраць вялікага князя Казіміра пакараныя смерцю князі Іван Гальшанскі і Міхаіл Алелькавіч.

**1954.** Нарадзіўся Аляксандр Лукашэнка, першы прэзідэнт Беларусі.

**1991.** Азербайджан абвясціў сваю незалежнасць ад СССР.

**Мікола ГАЙДУК.**


Фота vk.com.

Як жа не выпрабаваць новыя арэлі?

# Інклюзіўную пляцоўку адчынілі з гульнямі і прысмакамі

ВАЛОЖЫН

**У суботу, 11 жніўня, у Валожыне зладзілі ўрачыстае адкрыццё інклюзіўнай дзіцячай пляцоўкі.**

Па словах **Галіны Рай**, дырэктара Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, усталяваць і адкрыць пляцоўку планавалі да канца чэрвеня. Аднак дата пасунулася. Даўжэй, чым планавалі, клалі траўмабяспечную гумовую плітку. Невялікі рамонт спатрэбіўся арэлям.

Але нарэшце адкрыццё адбылося. Свята зладзілі ў спартыўнай зале фізкультурна-аздараўленчага комплекса. Арганізатары падкрэслілі, што гэтая пляцоўка – вынік працы многіх людзей. **Галіна Рай** – запаліла ідэяй, **Вольга Пракопчык** – курыравала праект, **Алена Жданюк** займалася піярам. Аніматары і мясцовыя выканаўцы дапамаглі зрабіць свята яркім, супрацоўнікі Валожынскага райвыканкама падтрымалі дзейнасць актывістаў. Да акцыі па прыборцы будучай пляцоўкі далучыліся жыхары бліжэйшых вуліц. На дабрачынных умовах дапамагалі мясцовыя прадпрыемствы.

Да адкрыцця новую дзіцячую пляцоўку ўпрыгожылі паветранымі шарамі. Дзятва выпрабоўвала мяккасць гумовай пліткі і надзейнасць новых арэляў.

У спартыўнай зале зладзілі спаборніцтвы на хуткасць, гульні, віктарыны, бальныя танцы на вазках, майстар-клас па вырабу паштовак. Дзяцей забаўлялі любімыя мультяшныя героі, а таксама вядучыя **Уладзімір Ціханоўскі** і **Наталля Нямкевіч**.

Валожынцы адгукнуліся на просьбу арганізатараў прынесці печыва, таму для ўсіх удзельнікаў адкрыцця зладзілі салодкі стол. Прапанаўвалі таксама гульню «Лазертаг» і аквагрым.

Праект па будаўніцтве інклюзіўнай пляцоўцы ў Валожыне стартаваў 31 сакавіка. Яго рэалізавалі сумесна з Фондам развіцця мясцовых супольнасцяў і пры фінансавай падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці.

Па інфармацыі Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання, у Валожынскім раёне 114 дзяцей з інваліднасцю. З іх 14 дзяцей-вазочнікаў. Многія з іх не ходзяць у школу, а наведваюць Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і развіцця. Таму іх зносіны абмежаваныя педагогамі і блізкімі сваякамі.


На майстар-класе вучылі рабіць яркія паштоўкі.

Арганізатары праекта спадзяюцца, што інклюзіўная пляцоўка дазволіць усім дзецям гуляць разам. Дзеці з інваліднасцю змогуць адаптавацца ў грамадстве і не саромецца. А звычайныя дзеці будуць прымаць іх, ставіцца як да роўных.

У далейшым на новай пляцоўцы плануюць ладзіць розныя імпрэзы для дзяцей.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


У зале спаборнічалі на хуткасць.

ТЭМА НУМАРА

# Турызм робяць даступным для ўсіх

## На Валожыншчыне зрабілі інклюзіўную печ – каб людзі на вазках маглі пячы хлеб

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адскануйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **tinyurl.com/y7a2z47r.**

ВАЛОЖЫН

**Экалагічную сцежку «Белакорац» у Налібоцкай пушчы 18 жніўня наведалі людзі, неабыякавыя да праблемы сацыяльнай адаптацыі. Там зладзілі інклюзіўны фэст «INФЭСТ», накіраваны на падтрымку людзей з абмежаванымі магчымасцямі.**

Фестываль з'яўляецца часткай праекта «Валожын без бар'ераў», які дапамагае стварыць даступнае асяроддзе для людзей з асаблівасцямі. На 90% праект прафінансаваў Еўрапейскі саюз.

Арганізатары зрабілі больш даступным турызм для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, дзякуючы перамозе ў конкурсе праектаў. «Валожын без бар'ераў» доўжыцца болей за два гады, за гэты час стварылі некалькі турыстычных прадуктаў.

### Чаму вырашылі зладзіць фестываль

На першай у Беларусі інклюзіўнай сцежцы могуць адпачываць людзі з рознымі відамі абмежавання магчымасцяў. Яе адкрылі некалькі месяцаў таму. Яна ўжо працуе і прымае гасцей – менавіта тут прайшоў сёлетні фестываль.

**Інклюзія – гэта рэальнае ўключэнне людзей з абмежаванымі магчымасцямі ў актыўнае грамадскае жыццё.**

Фэст дапамаглі падрыхтаваць удзельнікі інклюзіўнага летніка. Яго таксама зладзілі ў межах праекта, каб людзі з асаблівасцямі з усёй Беларусі аб'ядналіся для агульнай справы. На працягу пяці дзён яны стваралі на сцежцы арт-аб'екты.

– Фестываль зладзілі, каб прыцягнуць увагу як мага большай колькасці людзей да праблем мабільнасці ўвогуле. Што тычыцца летніка, людзі задаволеныя, шчаслівыя. Мне падаецца, яны хочуць працягу праекта, – распавёў адзін з арганізатараў фестывалю **Павел Коўшаль**.

Для наведвальнікаў фэста праводзілі майстар-класы па ганчарстве, вырабе паштовак і міні-шпакоўняў. Працавалі адукацыйная зона, фудкорт. Для дзяцей – забаўляльная пляцоўка.

У падтрымку людзей з асаблівасцямі на фестывалі выступілі беларускія музычныя гурты «Akute», «:B:N:», «Разбітае Сэрца Пацана» і «Tomato Jam».

– Лічу абсалютна нармальным, калі навакольле прыстасаванае для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, яны такія ж самыя людзі. Мы хочам падтрымаць ініцыятыву. Прыемна, што маем нейкае дачыненне да гэтай добрай справы, – прызнаўся перад канцэртам лідар гурта «Разбітае Сэрца Пацана» **Дзяніс Тарасенка**.

### Як узнік праект «Валожын без бар'ераў»

Некалькі гадоў таму фонд «Інтэракцыя», грамадскае аб'яднанне «Беларускае таварыства інвалідаў», беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы» звярнуліся ў Валожынскі райвыканкам, каб разам зрабіць праект, накіраваны на развіццё даступнага турызму ў Беларусі.

– Адтуль адказалі рашучым "так". Удзельнічалі ў конкурсе грантаў ад ЕС. Выбралі Валожыншчыну – райцэнтр знаходзіцца недалёка ад Мінска, тут цудоўная Налібоцкая пушча, вельмі стары лес, дзікія жывёлы... Усё сышлося ў адным праекце, – расказала менеджар праекта «Валожын без бар'ераў», прадстаўніца фонда «Інтэракцыя» **Ірына Іванова.**

### Як рэалізоўвалі інклюзіўны праект

Адна з самых вялікіх частак праекта «Валожын без бар'ераў» ідзе поўным ходам. Рэканструююць другі паверх тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва ў Валожыне. Там будзе знаходзіцца турыстычны інфармацыйны і рэкрэацыйны цэнтр для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Некаторыя аграсядзібы Валожыншчыны атрымалі фінансаванне. Яны адаптавалі свае паслугі да людзей з асаблівасцямі. На адной сядзібе зрабілі інклюзіўную печ – каб людзі на вазках маглі пячы хлеб. На другой набылі спецыяльную лодку. У яе можна заехаць на вазку і пакатацца па рацэ. Яшчэ адна сядзіба купіла павозку. Цяпер людзі могуць кіраваць конямі самастойна.



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

На фэсце прэзентавалі каністэрапію – метад лячэння і рэабілітацыі з дапамогай сабак.



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Выступае гурт «Разбітае Сэрца Пацана».

**– У межах праекта мы праводзілі трэнінгі і семінары. Каб удзельнікі зразумелі, што такое інклюзія, мысленне без бар'ераў, як патрэбна правільна звяртацца да людзей з асаблівасцямі і прапаноўваць дапамогу, – распавяла арганізатар.**

### Дзеці прыроды

На фэсце 30-гадовая дзяўчына з сіндромам Дауна **Вольга Івашына** паказала танцавальную кампазіцыю «Таямніцы Парыжа». Па словах маці **Святланы**, калі дачку называюць «зоркай», яна ззяе. У Вольгі слабы зрок, яна амаль не бачыць гледачоў, таму не саромеецца.

– Другая мая дачка, **Аксана**, хадзіла ў школу на аэробіку, танцавала. Я папрасіла, каб навучыла сястру. Оля ведае вершы, умее плаваць, робім з ёй інсцэніроўкі баек Крылова. У хворых на сіндром Дауна шмат талентаў, патрэбна з імі працаваць, уваходзіць у іх свет і папраўляць, – падзялілася маці Вольгі. – Оля перанесла шмат аперацый. Я была сведкай, як дачцэ балюча, а яна кажа доктару «дзякуй». Настолькі цярплівая і ўдзячная. А яшчэ вельмі моцная. Оля спакойна можа мяне падняць. У той жа час, калі дачку штурхне дзіця, пачынае баяцца. Але здачы не дасць. Любіць маленькіх дзяцей, жывёл. У нас саміх жыве дзве кошкі.

У гэты момант Оля падтрымлівае гутарку і кажа «Мяў»...

З-за дрэннага зроку Вольга баіцца нават зямлі. Па асфальту ідзе смела. А калі ступае на зямлю, думае, што гэта яма. Таму суправаджэнне ёй патрэбнае. Хворыя на сіндром Дауна – дзеці прыроды, упэўненая маці, таму іх трэба любіць, песціць, берагчы і ахоўваць.

Адораныя і таленавітыя – людзі з асаблівасцямі на фэсце яшчэ раз даказалі: жыццё можа быць паўнавартасным і насычаным, нягледзячы ні на што.

**Таццяна КАСЬЯН.**

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» прайграла Брэсту

МАЛАДЗЕЧНА

У дамашняй гульні 18 жніўня маладзечанцы саступілі лідару турнірнай табліцы другой лігі, брэсцкай камандзе «Рух». Гульня завяршылася з лікам 1:3.

З боку маладзечанцаў адзіны гол трапіў у вароты гасцей на 51 хвіліне ад Мікіты Дудо.

Па выніку гульні 18 туру «Маладзечна» застаецца на 12-м радку турнірнай табліцы другой лігі, а «Рух» умацаваўся на першай пазіцыі.

## «Ашмяны» саступілі «Спутніку»

АШМЯНЫ

18 жніўня ашмянцы прынялі дома рэчыцкі «Спутнік». Адзіны гол з боку гаспадароў забіў на 10 хвіліне Дзмітры Купнеўскі. Госці зрабілі чатыры галы.

Па выніках 18 тура ашмянцы займаюць чацверты радок турнірнай табліцы другой лігі, не змяняючы пазіцыі. Рэчыца ж умацоўваецца на трэцім радку. Калі па выніках 17-а тура каманды мелі аднолькавае 31 ачко, цяпер «Спутнік» абганяе ашмянцаў з 34 ачкамі супраць 31.

● ХАКЕЙ

## «Дынама-Маладзечна» не саступілі ХК «Данбас»

МАЛАДЗЕЧНА

20 жніўня ў Лядовым палацы сышліся маладзечанскія хакеісты з ХК «Данбас».

Спаборніцтва завяршылася з лікам 5:2 на карысць маладзечанцаў.

## Адбудзецца фінал Кубка Салея

МАЛАДЗЕЧНА

А 19 гадзіне 24 жніўня пачнецца матч маладзечанскай каманды з гродзенскім «Нёманам» у спартыўна-забаўляльным цэнтры.

Гэта фінал розыгрышу Кубка Салея. У турнірнай табліцы цяпер маладзечанская каманда займае першы радок у групе А. На другім радку якраз гродзенскія супернікі.

## У Астраўцы спартыўна адзначаць 550-годдзе



Так адбывалася спаборніцтва па сілавым экстрыме ў Астраўцы ў ліпені.

Фота ostrovets.by.

АСТРАВЕЦ

Населены пункт шырока адзначае свой юбілей.

Спартыўныя мерапрыемствы пройдуць у суботу, 25 жніўня, на пляжы каля вадаёма ў мікраараёне №2.

У 10 гадзін адкрые праграму спартыўнае свята «Плаванне хоць на чым». Удзельнікі павінны самастойна змайстраваць плавальныя прыстасаванні і плысці на іх камандай. Кожная каманда імкнецца як мага больш крэатыўна прадставіць свой «карабель», а само спаборніцтва весяліць і ўдзельнікаў, і гледачоў.

У 11 пачнецца спаборніцтва за кубак па пляжным валейболе.

А 13 гадзіне стартуе спаборніцтва па сілавым экстрыме «Астравецкі асілак – 2018». Традыцыйна ўдзельнікі выпрабоўваюць сябе ў некалькіх этапах, дэманструючы вытрымку і сілу.

**Паводле інфармацыі Астравецкага фізкультурна-спартыўнага клуба.**




Фота прэс-службы ФК «Смаргонь».

Матч «Смаргоні» і «Чысці».

# «Смаргонь» разбіла «Чысць»

СМАРГОНЬ
МАЛАДЗЕЧНА

**У гульні 18 жніўня «Чысць» прымала смаргонцаў дома. Госці разбілі гаспадароў з лікам 2:4.**

Аўтарамі голаў з боку Чысці сталі Аляксандр Ксенафонтаў на 55 хвіліне і Уладзіслаў Яцкевіч на 72-й.

«Мядзведзі» забілі ў вароты суперніка чатыры галы. Павел Дзямідчык на 18-й і 34-й хвілінах, Аляксандр Талканіца на 27-й, Уладзімір Казко на 45-й з пенальці.

**По выніках розыгрышу 18 тура Чысць працягвае займаць апошні, 15-ы радок турнірнай табліцы першай лігі.**

Перамога вывела «Смаргонь» з 8 радка на сёмы. Каманда сабрала за выезд сем балаў з дзевяці. Папярэднічае «мядзведзям» наваполацкі «Нафтан» з абгонам на тры ачкі.

Фанатаў асабліва ўсцешылі прыгожы гол са штрафнога Талканіцы. Прэс-служба каманды адзначае выдатную гульню смаргонцаў у першым тайме. Другі тайм падаўся слабейшым, але перамогу госці не ўпусцілі.

Стала цяжэй пасля выдалення Казко

У размове з прэс-службай ФК «Смаргонь» Павел Дзямідчык, які зрабіў галявы дубль, расказаў:

> **– Галы ніколі не даюцца лёгка. Абодва разы Вова Казко добра выбягаў і падстрэльваў, а мне заставалася толькі завяршыць. У мяне гэта атрымалася.**

**– Ці было жаданне пайсці прабіць пенальці, каб зрабіць хэт-трык у матчы?**

– Жаданне забіць заўсёды ёсць, тым больш калі ўжо два забіў. Канешне, хацелася і тры, але Вова Казко сам пенальці зарабіў, сам павінен быў біць. Забіў – малайчына!

**– Чаму атрымалася два такіх абсалютна розных тайма?**

– Першы тайм мы пачалі някепска, з'яўляліся моманты, якія ўвасобілі ў чатыры забітыя мячы. У другім тайме, пасля выдалення, стала цяжэй. У першую чаргу ў маральным плане. У нас была вялікая перавага ў галах, мы вялі ў тры мячы, але выдалілі Вову Казко, і стала цяжэй гуляць. Больш даводзілася рухацца без мяча, адпаведна сіл заставалася меней. Ну і падселі крыху. Але мы выстаялі, праявілі характар і ў выніку здабылі тры ачкі.

### Пасля змены трэнера

Гульня у Чысці стала першай пасля скасавання кантракта з галоўным трэнерам каманды Мікалаем Гергелем. Цяпер гэтыя абавязкі выконвае Аляксей Дварэцкі. Вось як ён ацаніў выезд:

– У першую чаргу дзякую балельшчыкам, якія прыехалі ў Чысць падтрымаць каманду. Што тычыцца гульні, то тыднёвы цыкл правялі ў добрым стане. Разуменне з калектывам, працаздольнасць футбалістаў – усё прысутнічала. Гэта і вылілася ў першы тайм. Былі нязначныя хібы, але першы тайм парадаваў.

Што тычыцца другога тайму, то тут больш пытанняў, чым адказаў. У выніку каманда выйграла, трэнер выйграў – тры ачкі ёсць, але галава ў трэнера баліць.

**– З-за чаго не змаглі ў другім тайме згуляць гэтак жа, як у першым?**

– Найперш паўплывала ранняе выдаленне, яшчэ не змаглі дагрукацца да маладзёнаў у плане таго, што не трэба было выходзіць і гуляць па ліку. Казаў ім, што трэба забыць першы тайм і другі пачынаць з нуля, але дапусцілі некаторую слабіну і прапусцілі два галы.

> **Трэба было сыходзіць у свабодныя зоны за кошт індывідуальных дзеянняў, але неяк усё атрымалася сумбурна і на адбой.**

Не было цэласнай структуры гульні. Ну і з-за ранняга выдалення не змаглі аб'ектыўна перастроіцца. Калі ў першым тайме спрацоўвала контратака, то ў другім гэтага не было. Ды і ў меншасці хлопцы крыху падселі.

**Паводле прэс-службы ФК «Смаргонь».**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Незанятая пасада, свабоднае месца ў штаце.
6. Менавіта ў гэты перыяд пік палавой актыўнасці ў большасці пар.
7. Які заслугоўвае поўнага даверу, непахісны ў поглядах, пачуццях, адданы.
8. Сэнс, сутнасць.
9. Цяпер гэтае слова мае іншы сэнс, а да прыходу савецкай улады так гімназісты называлі калектыўную лупцоўку, якую арганізавала начальства за правіны.
10. Сумесь газаў, галоўным чынам азоту і кіслароду, якія акружаюць зямлю і складаюць яе атмасферу.
11. Унучка гэтага пісьменніка расказвала, як яе школьная сяброўка атрымала заданне напісаць, што гэты пісьменнік уклаў у вобраз Вані з апавядання «Сын палка». Сяброўка прыйшла ў госці і распытала пра ўсё ў самога аўтара. За сачыненне яна атрымала тройку з мінусам з каментаром настаўніцы, што аўтар думаў зусім пра іншае.
12. Новая, нядаўна набытая, пашытая рэч, якой яшчэ не карысталіся.
14. Ударны сігнальны падвясны інструмент (з медзі або з меднага сплаву) у выглядзе ўсечанага пустога конуса з падвешаным усярэдзіне ўдарнікам (языком).
15. Сімвал і прадмет культу хрысціянскай рэлігіі ў выглядзе металічнага стрыжня або драўлянага бруса з адной або дзвюма папярочнымі перакладзінамі.
18. Разнавіднасць.
19. Калі адбіваеш напад.
20. Аблямоўка, вузкая палоска, якая акаймоўвае.
21. Знешні выгляд, што ўзнікае ў памяці.
23. Астатак недагарэлай свечкі, электрода, цыгаркі.
25. У якой краіне стаў нацыянальным героем навукоўца Ігнат Дамейка?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Дэфіс.
3. Запалка.
4. Месца, дзе дарога, рака, вуліца паварочвае, адхіляецца ўбок.
5. Пад гэтым беларускім горадам ваяваў жаночы батальён на чале з Марыяй Бачкаровай у час Першай сусветнай вайны.
6. Які мае вялікае значэнне; рашаючы.
8. Пісьмовая просьба, складзеная па ўстаноўленай форме.
9. Ад дубцоў дурнеюць, ад ... разумнеюць.
12. Праём у сцяне будыніны для святла і паветра.
13. Спосаб нечаканага нападу з укрыцця.
14. Кароткае выказванне, меркаванне наконт тэмы.
15. Агульны выгляд мясцовасці, малюнкі прыроды.
16. Суцэльны або са спіцамі круг, які круціцца на восі і забяспечвае рух сродкаў перамяшчэння.
17. Салодкі кандытарскі выраб; род пячэння.
22. Вуснае апавяданне, якое жыве ў народзе, у пэўнай мясцовасці і перадаецца з пакалення ў пакаленне.
24. Цяпер гэта дзіцячая гульня ці спосаб бавіць час. А стварыў гэта англійскі картограф у 18 стагоддзі як метад вывучэння карты Еўропы.
25. З табой прыйшлі мы ў першы клас Асеннім цёплым ранкам, А сёння ўжо нам брацца час За новую ...

## Адказы на крыжаванку з №33

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Цёзка. 4. Цуглі. 5. Схема. 7. Сцяна. 9. Ньютан. 12. Мінейка. 14. Экіпаж. 15. Эгалітарны. 16. Энергія. 18. Цвёрды. 20. Ніл. 21. Вакал. 25. Тытанік. 27. Каралы. 28. Цвярозы.

**Па вертыкалі:** 1. Цацка. 3. Газеце. 5. Сюжэт. 6. Царя. 8. Экзамен. 10. Валынка. 11. Сырадой. 12. Манаполія. 13. Сарочкі. 15. Эпоха. 17. Сяліба. 19. Цемра. 21. Важна. 22. Каханых. 23. Аўтамабіль. 24. Штора. 26. Ціск. 29. Вар. 30. Валока.

## ● ГАРАСКОП 24-30 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** У вас шмат талентаў і здольнасцяў, для раскрыцця якіх трэба прыкладаць намаганні. Гэта той самы час, калі здаровы эгаізм неабходны, каб больш трывала замацавацца ў жыцці.

**ЦЯЛЕЦ.** Успомніце, чым вы ганарыліся, калі вам было 15-20 гадоў, і паўтарыце поспех былога. Дакажыце, што ў вас ёсць порах у парахаўніцах.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы павінны весці барацьбу з усім, што вам непрыемна. Вы цяпер – воін, Дон Кіхот, які змагаецца за праўду. Перыяд будзе доўжыцца некалькі тыдняў і носіць нейкі глабальны характар у вашым жыцці. Жадаю вам перамогі.



**РАК.** Тыдзень падорыць спрыяльныя ўмовы для работы і прапануе дастойную цану за ваш талент.



**ЛЕЎ.** Магчымы крызіс сістэмы каштоўнасцей. Перагледзьце свае ранейшыя прыярытэты. Напрыклад, вы можаце раптам усвядоміць, што ваш багаж ведаў ужо не адпавядае сённяшняму часу. Калі ў вас ёсць дзеці, то больш часу праводзьце з імі, займайцеся іх выхаваннем. Яны абавязкова вас парадуюць і здзівяць поспехамі.



**ДЗЕВА.** Да ўсіх спраў падыходзьце з фантазіяй і выдумкай. Можна эксперыментаваць са сваёй знешнасцю, мяняць прычоску, стыль адзення. Старайцеся выдзеліцца з натоўпу і праявіць сваю індывідуальнасць.



**ШАЛІ.** Удачны збег абставін выведзе вас на кантакт з патрэбнымі людзьмі. Не адмятайце магчымасці, якія не прыносяць вялікага прыбытку цяпер – вельмі магчыма, яны прынясуць немалыя дывідэнды потым. І не нервуйцеся па дробязях.



**СКАРПІЁН.** Пашырыліся рады нядобразычліўцаў і ворагаў, а саюзнікаў вы страцілі. Так, гэта замкнутае кола: у вас ёсць падставы не давяраць людзям, у іх – быць пакрыўджанымі вашым недаверам. Рана ці позна вы дасягняце крытычнай кропкі. Менавіта ў гэты момант пачнуць фарміравацца новыя, больш узважаныя адносіны да свету ў цэлым і да людзей у прыватнасці.



**СТРАЛЕЦ.** Цяпер вы павінны быць не кавалём, а ювелірам уласнага шчасця. Займіцеся тымі справамі, якія надзейныя і нясуць стабільнасць не толькі ў матэрыяльных, але і ў сацыяльных адносінах.



**КАЗЯРОГ.** Давядзецца праявіць гнуткасць розуму і максімум кемлівасці. Пaглядзіце на сітуацыю, не перастрайцеся з ціскам на навакольных, а па некаторых дробязях можна і ўступіць. Добра было б павучыцца самадысцыпліне. Вы паспяхова можаце аказваць асабісты ўплыў, але не заўсёды той, які трэба было б.



**ВАДАЛЕЙ.** Добры час для пошуку жыццёвага ідэала, да якога вы ў далейшым будзеце імкнуцца, расшырэння кругагляду. Магчыма, вы сустрэнеце чалавека, які стане вашым настаўнікам.



**РЫБЫ.** Эмацыйны фон тыдня толькі злёгку пафарбаваны ў неспрыяльныя тоны, але адбівайцеся гэта перш на вашых адносінах з блізкімі – раздражненне, крыўды вы несяце «ў дом», нічога не пакідаючы за парогам. Добра, што вас разумеюць. Але беражыце тых, каго любіце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 7 | | 8 | | 5 | | |
| | 3 | 8 | 4 | | | | | |
| | 6 | | | 7 | | 1 | | |
| | 7 | 6 | | 2 | 1 | | | |
| 9 | 2 | 5 | | | | | | |
| | 1 | | 6 | | | | 2 | |
| | 4 | | 3 | | 8 | | | |
| | | | | 6 | 5 | 9 | | |
| 3 | | | | 4 | | 8 | 1 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

**25 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +25 | | +18 / +25 | | +19 / +27 | | +17 / +17 | |
| | 740 | ↑ 6 | 735 | ↑ 6 | 735 | ↑ 6 | 740 | ↓ 5 |
| Вільня | +15 / +26 | | +18 / +21 | | +17 / +17 | | +13 / +16 | |
| | 745 | ↑ 6 | 745 | ↑ 7 | 742 | ↘ 4 | 748 | ↙ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 6.07
Захад 20.22
Даўжыня дня 14.25

Усход 20.14
Захад 4.33
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +2,0°C у 1971 годзе
Максімальная тэмпература +29,2°C у 1985 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,8 мм у 2014 годзе
Паводле meteoinfo.by.

# Маладзечанцы вырасцілі на лецішчы паўметровы агурок

**Да нас у рэдакцыю прыйшоў чытач Уладзімір Кавалевіч. Мужчына прынёс агурок, які яны з жонкай Нінай вырасцілі на лецішчы на Валожыншчыне. Даўжыня агурка – 51 сантыметр.**



Фота Ігара ПАЛЬЧЫНСКАГА.

Уладзімір Кавалевіч з тым самым агурком.

– Мы пенсіянеры. Разам з жонкай на лета прыязджаем у яе бацькоўскі дом у вёску Высокае, што на Валожыншчыне, – расказаў **Уладзімір Кавалевіч**. – Вырошчваем агуркі, памідоры, шмат кветак.

Сёлета дачка прывезла бацькам насенне агуркоў гатунку «Салатны». Гаспадыня абгарнула кожнае зярнятка ў туалетную паперу і пасадзіла. А прыйшоў час – знайшла ў цяпліцы вялікі агурок. Гаспадар памераў яго. У даўжыню агурок аказаўся 51 сантыметр. Пакуль гэта першы такі «экзэмпляр».

Аднак, па словах гаспадара, на агурочніку яшчэ ёсць завязі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень

- Ці праўда, што заяву пра знікненне чалавека ў міліцыі прымаюць толькі праз тры дні? Як часта свядомыя грамадзяне дапамагаюць знайсці зніклага? Як шукаюць і як знаходзяць людзей у Вілейскім РАУС і ці часта дзякуюць міліцыянерам усцешаныя сваякі, чытайце ў наступным нумары.



## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы хацелі зрабіць летам і адклалі на наступны год?



**Настасся Шыдлоўская, у дэкрэтным адпачынку:**
– Хацела выспацца на моры і з'есці кавун. Але дачцэ Васілісе цяпер шэсць месяцаў, таму не паспела. Наогул лета супер, бо першы год гуляю з ёй, быццам нітачка з іголачкай. Я шчаслівая, я маці – гэта лозунг.



**Ігар Пашкевіч, рэвізор пасажырскіх цягнікоў:**
– Улетку планаваў паехаць у паездку ў Піцер – адпачыць і даведацца пра працу. Але гэтую ідэю адклаў да наступнага лета. Дакладна не ведаю, што будзе больш выгадна з фінансавага пункту гледжання... Ну і рэзка пакінуць зону камфорту не гатовы.



**Настасся Косціна, адміністратар у краме:**
– Хацела знайсці новую працу, прайсці курсы па вёрстцы, заняцца вывучэннем англійскай мовы, бегаць па раніцах ці пайсці ў спартзалу. Але пошукі працы занялі шмат часу, курсы прыйшлося перанесці на восень, а бег, магчыма, яшчэ далей. А летам хацела адпачыць. Гэта і адкладу на наступны год.



**Аляксандр Дзяругін, выкладчык псіхалогіі:**
– Вельмі хацелася паглядзець на Стары Свет – Еўропу, асабліва ўсходнюю, прайсціся па вулачках, якія бачылі змену эпох, падзей і пакаленняў, на свае вочы ўбачыць іншую архітэктуру. Але канец вучобы і змена працы не дазволілі вырвацца, значыць, гэты год не быў прыдатным для падарожжа.



**Настасся Рынкевіч, юрысконсульт:**
– Большую частку з запланаванага паспела зрабіць, а астатняе яшчэ планую. Сёлета на мора з'ездзіла ўпершыню, на верталёце палятала. Яшчэ на «Рок за Баброў» схадзіла – адны з самых яскравых момантаў.



**Вікторыя Арлова, спецыяліст па падборы персаналу:**
– На наступнае лета ў мяне ўжо запланаваная паездка на мора і да сваякоў за мяжу. А яшчэ хачу паступіць ва ўніверсітэт на другую вышэйшую. І пакатацца на чырвоным экскурсійным аўтобусе па Мінску.



**Вольга Аляксеева, спецыяліст па працы з кліентамі:**
– Мае планы на лета круціліся вакол адпачынку ў Нарвегіі на фіёрдах. Не трапіла, затое пабывала на Карыбскім моры ў Дамініканскай рэспубліцы. Незабыўныя адчуванні з фантастычнымі краявідамі, але ўсё ж не Нарвегія.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№34 (1217) 24.08.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 625. Падпісана ў друк у 9.00 23.08.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.